БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

4 чэрвеня 1994 г.
Субота
№ 60 (13777)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года

**У НУМАРЫ:**



*Малюе Віктар ДУБОВІК*



ЗАЎТРА СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ

## ЖАХНУЦЦА, КАБ ЗРАЗУМЕЦЬ

*Чалавек створаны,*
*каб вырошчваць*
*і берагчы сад зямны.*

Быццё, I, 26.

Ледзь скінуўшы з сябе звярынае аблічча, чалавек чамусьці вырашыў, што жыць у ладзе з прыродай неяк няўтульна і нязручна. З незвычайнай хуткасцю (што такое пяць тысячагоддзяў у межах геалогіі?) стварыў амаль цалкам штучнае асяроддзе, падмануўшы самога сябе думкай, што так ён вырашыць усе свае праблемы. Натуральна, іх не стала не толькі менш, яны набылі гіганцкія памеры і сёння ў большасці маюць агульна-планетны маштаб.

Цяпер канешне, можна не задумвацца над тым, што гіне вялікая Волга, знішчаюцца рэліктавыя кедрачы, атручаны Белае мора і "набытак свету" Байкал: замежжа. Аднак, паглядзеўшы на сябе, убачым, што самі багатыя на вострыя праблемы аховы навакольнага асяроддзя. Бадай, толькі аддзяліўшыся ад "адзінай і недзялімай", мы раптам зрабілі самотнае адкрыццё: на сённяшні дзень Беларусь — адна з самых забруджаных краін Усходняй Еўропы. Гэта і сам Мінск з яго гігантамі індустрыі (Свіслач пакідае межы горада мёртвай).

**Вера ПАЛЯКОВА.**
**Фота Сяргея БРУШКО.**

*(Працяг на 2-й стр.)*

## Кур'ер "ЧЗ"

### Гродзенскія сустрэчы

*2 чэрвеня Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.Грыб наведаў Гродна.*

Спікер парламента пабываў на заводзе "Радыёпрыбор", дзе пазнаёміўся з вытворчасцю, з новымі відамі прадукцыі, сустрэўся з працоўным калектывам. Мячэслаў Іванавіч адзначыў, што краіна знаходзіцца ў глыбокім сацыяльна-эканамічным крызісе. Толькі за першы квартал бягучага года ў параўнанні з леташнім перыядам вытворчасць прамысловай прадукцыі знізілася на 35 працэнтаў, нацыянальны даход — на 38. Галоўнай задачай Старшыня Вярхоўнага Савета лічыць спыненне спаду вытворчасці. Ужо сёння ідзе работа па перагляду падатковай сістэмы. Гэтае ж пытанне будзе ўнесена ў парадак дня восеньскай сесіі парламента.

Пасля сустрэчы з працоўным калектывам завода "Радыёпрыбор" Мячэслаў Грыб наведаў Літаратурны музей Максіма Багдановіча, пабываў у акцыянерным таварыстве "Гроднаабутак".

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.**

### Калі вада – бяда

*Жыхарам баракаў, размешчаных ля цэнтральнай чыгуначнай станцыі ў Баранавічах, прыйшлося раптам стаць пацыентамі медустаноў. За кароткі час было шпіталізавана 8 чалавек са скаргамі на галаўны боль, млоснасць, рэзі ў жываце. Прычына захворвання — пітная вада.*

Аналіз аператыўна праведзеных проб паказаў на наяўнасць у ёй вялікай канцэнтрацыі аміячнай салетры, якая ў некаторых выпадках у 100 разоў перавышала дапушчальныя нормы. Паводле папярэдніх звестак з Баранавічаў, віноўнікам гэтага масавага атручвання тут лічаць кіраўнікоў будаўніча-мантажнага поезда нумар 294, якія праявілі недаравальную халатнасць. У апошнія гадзіны паступілі звесткі і аб смяротных выніках: памерла чатырохгадовае дзіця і знойдзены труп невядомага мужчыны. Праўда, ці звязаны гэтыя смерці з пітной вадой, медыкі пакуль не ўстанавілі.

### Выратавальная... моркаўка

*У чарговы раз пацверджаны дзіўныя лекавыя ўласцівасці морквы. Беларускія вучоныя і спецыялісты рэкамендавалі харчовай галіне рэспублікі прымяняць у якасці дабаўкі бэта-карацін, атрыманы з морквы.*

Узбагачаныя такім чынам прадукты — тварог, кансервы з агародніны, дзіцячае харчаванне і нават кандытарскія вырабы — павышаюць біялагічную каштоўнасць. Акрамя таго, спажываючы іх, арганізм чалавека становіцца больш устойлівым да ўздзеяння іанізуючай радыяцыі.

Упершыню ў Беларусі НДЦ "Стандартплодаагародніна" заняўся распрацоўкай атрымання канцэнтрату маркоўнага караціну, які і змяшчае бэта-карацін. Ужо выраблена першая доследна-прамысловая партыя гэтага каштоўнага прадукту на Слуцкім кансервавым заводзе. Але спецыялісты цэнтра пайшлі далей, і прадоўжылі работу па вырабу бэта-караціну з традыцыйнай беларускай агародніны і траў: буракоў, крапівы, памідораў. Усур'ёз яны заняліся і выкарыстаннем мясцовых востра-духмяных раслін — сельдэрэю, пастарнаку, мелісы, мацярдушкі, хрэну, гарчыцы і іншых. Праведзеныя даследаванні паказалі, што прадукты, багатыя гэтымі дабаўкамі, таксама маюць радыепратэктарныя ўласцівасці, ахоўваючы арганізм ад уздзеяння радыяцыі.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Памяці пакутнікаў

*У Маладзечна плануецца адкрыць помнік-ансамбль памяці вязняў, якія пакутавалі і гінулі ў фашысцкім канцлагеры "Шталаг–342", што размяшчаўся ў горадзе.*

Гэтая падзея адбудзецца напярэдадні 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**Мікола БАГАДЗЯЖ.**

### Купала на англійскай мове

*Днямі беларускую сталіцу наведала група гасцей з англійскага горада Нотынгема (дарэчы, пабраціма Мінска).*

Яны сустрэліся з гарадскімі ўладамі, пісьменнікамі, грамадскімі дзеячамі. У выніку ў хуткім часе паміж Нотынгемам і Мінскам будуць наладжаны дзелавыя сувязі.

Адна з мэтаў візіту — падрыхтоўка англійскага фільма, прысвечанага Янку Купалу.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

### Мастацтва перамагае вайну

*Гэта яшчэ раз пацвердзіла выстава твораў заслужанага мастака Абхазіі Генадзя Лакобы, што адкрылася ў гродзенскай галерэі "У майстра".*

Вядомы абхазскі жывапісец і скульптар, вымушаны часова пакінуць радзіму, ратуючыся ад грамадзянскай вайны: ужо два гады ён жыве і працуе ў Гродна. Яго выставы праходзілі ў многіх гарадах былога СССР і за мяжой.

Акрамя арыгіналаў, на гродзенскай выставе Генадзя Лакобы выстаўлены фотаздымкі яго твораў, якія ўпрыгожвалі ў мінулым куточкі Абхазіі, а зараз загінулі ў полымі вайны.

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.**

### Каша – ды не наша

*У Наваполацку, на "Нафтане", сховішчы разбухаюць ад гатовай прадукцыі, у той час як сітуацыя з палівам на Беларусі ўсім добра вядомая.*

Ды вось бяда — каша не наша, і беларусам застаецца толькі аблізваць губы. Распарадзіцца прадукцыяй мае права толькі яе гаспадар — "Раснафта", у якога таксама праблемы з-за неплацежаздольнасці. Зачараванае кола?

### Гаражы на... касцях

*Трэці год ля вёскі Мішкава, што недалёка ад Віцебска, ідзе інтэнсіўнае будаўніцтва прыватных гаражоў на... чалавечых касцях.*

Тут яшчэ з вайны засталіся ляжаць абаронцы горада, а таксама мірныя жыхары, якія загінулі ў канцлагеры. Аднак гэта мала хвалюе прыватнікаў. Хоць і паабяцаў у свой час архітэктар Віцебска, што ніякіх гаражоў на гэтым месцы не будзе, тыя працягваюць расці, як грыбы пасля летняга дожджыку.

**Уладзімір МІХНО.**

### Небяспечныя "свавольствы"

*За першы квартал гэтага года на Маладзечаншчыне ўзнікла сем пажараў ад дзіцячага свавольства з агнём.*

Бацькам свавольнікаў будзе прад'яўлены іск аб пакрыцці страт.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

### Віцебск–Маладзечна

*З 14 канкурсантаў, што змагаліся за права стаць удзельнікамі другога нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна–94", чатыры выканаўцы з Віцебска.*

Адна з іх, Ларыса Грыбалёва — студэнтка Віцебскага педагагічнага інстытута — вядомая ў горадзе як лаўрэат фестывалю "Студэнцкая вясна-93".

**Яўгенія ВІЦЬБА.**

### Курсы валют на 3 чэрвеня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 21131 | 21750 | 12716 | 13220 |
| "Прыор" | 21100 | 21400 | 12820 | 13000 |
| "Пошук" | 21200 | 21700 | 12800 | 13200 |

ВЫБАРЧЫ МАРАФОН

## ГРАФІК

### прадастаўлення эфірнага часу на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь з 7 па 21 чэрвеня 1994 года.

1. Кандыдатам для выступленняў на тэлебачанні прадастаўляецца эфірны час штодзённа (акрамя нядзелі) з 19.00 да 21.00. У нядзелю — з 13.00 да 15.00. Кожны кандыдат можа выступіць 4 разы. Выступленне кандыдата больш чым адзін раз у дзень не дапускаецца.

2. Кандыдатам для выступленняў па радыё прадастаўляецца штодзённы эфірны час з 7.00 да 8.30 і з 12.00 да 14.00. Кожны кандыдат можа выступіць 4 разы. Выступленне кандыдата больш чым адзін раз у дзень не дапускаецца.

3. 22 чэрвеня 1994 года эфірны час кандыдатам не прадастаўляецца.

4. Арганізацыя прамога эфіру ўскладаецца на рэдакцыі грамадскіх і сацыяльна-эканамічных праграм тэлебачання і радыё.

5. Дзяржтэлерадыё забяспечвае арганізацыю выступленняў кандыдатаў у межах сваіх тэхналагічных магчымасцей і з улікам дзяржаўных сродкаў, якія выдзелены кожнаму кандыдату на выступленні.

6. Для ўдзелу ў выступленнях на тэлебачанні і на радыё кандыдаты (пасля рэгістрацыі і атрымання пасведчання Цэнтрвыбаркама) не пазней чым за 5 дзён да выступленняў падаюць асабістыя заяўкі на імя старшыні Дзяржтэлерадыё, якія рэгіструюцца ў агульным аддзеле Дзяржтэлерадыё ў спецыяльным журнале, пранумараваным, прашнураваным і засведчаным пячаткай Дзяржтэлерадыё.

Чарговасць выхаду ў эфір вызначаецца тэрмінам рэгістрацыі заявак кандыдатаў.

7. Кандыдаты могуць выкарыстоўваць, у межах выдзеленага ім тэлеэфірнага часу, асабістыя відэаматэрыялы, фільмы, сюжэты, калі апошнія адпавядаюць тэхнічным патрабаванням Дзяржтэлерадыё.

8. Усе выступленні кандыдатаў праходзяць з удзелам вядучых, якія назначаюцца непасрэдна Дзяржтэлерадыё і ў прысутнасці прадстаўніка Цэнтрвыбаркама і юрыста Дзяржтэлерадыё.

9. З мэтай забеспячэння роўных магчымасцей для перадвыбарных выступленняў кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь вызначыць, што сумесныя выступленні двух і болей кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь ажыццяўляюцца на тэлебачанні і радыё пры ўмове згоды на такія выступленні ўсіх без выключэння кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублкі Беларусь.

### Зоркі "ўсміхаюцца" Шушкевічу?

*Вядомы беларускі экстрасенс і астролаг Валерый Лістратаў зрабіў свой прагноз аб выніках першых прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Паводле яго перакання, дзень 23 чэрвеня, калі грамадзяне Беларусі прыйдуць да выбарчых урнаў, — спрыяльны для кандыдата, які нарадзіўся пад знакам Стральца.*

У Цэнтральнай камісіі мы ўдакладнілі даты нараджэння ўсіх прэтэндэнтаў на такую адказную пасаду. Высветлілася наступная карціна: Аляксандр Дубко нарадзіўся 14 студзеня 1938 года пад знакам Казярога; Вячаслаў Кебіч — 10 чэрвеня 1936 года, Блізняты; Аляксандр Лукашэнка — 30 жніўня 1954 года, Дзева; Васіль Новікаў — 21 лістапада 1946 года, Скарпіён; Зянон Пазьняк — 24 красавіка 1944 года, Цялец; Станіслаў Шушкевіч — 15 снежня 1934 года, Стралец. Як бачыце, зоркі "ўсміхаюцца" Шушкевічу.

Засталося толькі пачакаць тры тыдні, і ўсе мы даведаемся, наколькі дакладны гэты прагноз.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Ад кур'ёзнага да сур'ёзнага

*У пракуратуру Рэспублікі Беларусь Цэнтральнай камісіяй па выбарах прэзідэнта накіраваны матэрыялы па факту выкарыстання службовага становішча ў ходзе правядзення кампаніі па збору подпісаў у падтрымку прэтэндэнтаў на першую пасаду ў рэспубліцы.*

У працэсе інспекцыйнай праверкі ходу падрыхтоўкі да выбараў прадстаўнікі Цэнтральнай камісіі звярнулі ўвагу на адну з аб'яў, што былі вывешаны ў будынку Глускага райвыканкама. У ёй змяшчаўся зварот да работнікаў выканкама і наведвальнікаў аддаць свае галасы на карысць Вячаслава Кебіча і ўказваўся нумар кабінета, у якім гэта можна было зрабіць.

* * *

*Народны суд Асіповіч прыцягнуў да адміністрацыйнай адказнасці членаў мясцовай групы збору подпісаў за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты Уладзіміра Карагіна.*

У ходзе праверкі падпісных лістоў выбарчымі камісіямі былі выяўлены факты масавай падробкі подпісаў выбаршчыкаў.

**БЕЛІНФАРМ.**

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

## Прафсаюзы не жадаюць быць "крайнімі"

*Двум важнейшым пунктам генеральнага пагаднення паміж урадам рэспублікі, прафсаюзамі і аб'яднаннямі наймальнікаў была прысвечана прэс-канферэнцыя для журналістаў у штаб-кватэры Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.*

Першы датычыць суадносін мінімальнай заработнай платы і спажывецкага бюджэту, разыходжанне паміж якімі, згодна з тым жа трохбаковым пагадненнем, не павінна перавышаць 27 працэнтаў. Паводле разлікаў сацыяльна-эканамічнага аддзела савета ФПБ, ужо ў чэрвені мінімальная заработная плата ў Беларусі павінна складаць 123,7 тысячы рублёў. Да новага павышэння яе ўзроўню больш чым удвая ўрад не гатовы з-за ўсё большага ўскладнення становішча ў эканоміцы, беднага бюджэту, а Міністэрства фінансаў заявіла, што не зможа забяспечыць насельніцтва грашовай масай.

На перагаворах, якія зайшлі ў тупік, абодва бакі, што падпісалі пагадненне, — урадавы і наймальнікаў — сышліся на кампрамісным рашэнні: індэксаваць зарплату ў чэрвені—ліпені, прытрымліваючы пры гэтым кантралюемыя дзяржавай цэны. Прафсаюзы такія паўмеры не задавальняюць. Старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык заявіў журналістам, што яны будуць настойваць няхай на паступовым, з 90 тысяч, але павышэнні мінімуму зарплаты з адначасовым стрымліваннем цэн, і звярнуліся па падтрымку ў пярвічныя прафсаюзныя арганізацыі.

Другі "галаўны боль" прафсаюзаў — зрыў летніх аздараўленчых мерапрыемстваў з-за іх дрэннага фінансавання. Для таго, каб дарослыя і дзеці маглі адпачыць і паправіць сваё здароўе ў чэрвені—верасні бягучага года, неабходна 380 мільярдаў рублёў, у тым ліку 160 — толькі на чэрвень. Частку сродкаў паабяцаў выдзеліць фонд сацыяльнай абароны, астатнія можа даць толькі дзяржаўны крэдыт, надзеі на які, усё з-за той жа эканамічнай нестабільнасці ў беларускай дзяржаве, вельмі невялікія. 120 мільярдаў рублёў з неабходных 500 — выдзелена і для аздараўлення людзей, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Гэта азначае, што 85 працэнтаў тых, хто мае ў гэтым патрэбу, у тым ліку і дзяцей, не змогуць атрымаць бясплатныя пуцёўкі, як гэта вызначана законам аб сацыяльнай абароне чарнобыльцаў. Адпачынак жа на Украіне і ў Малдове, з урадамі якіх падпісаны адпаведныя дагаворы, беларусам стаў не па кішэні: напрыклад, за пуцёўку ў Крым аднаму чалавеку трэба заплаціць 8 мільёнаў беларускіх разліковых білетаў. Праўда, магчымы бартэр, але пад яго ўрад рэспублікі павінен выдзеліць пэўныя матэрыяльныя сродкі.

Генеральнае пагадненне на 1994 год, якое дае грамадзянам пэўныя сацыяльныя гарантыі, падкрэсліў Уладзімір Ганчарык, падпісвалі тры бакі — прафсаюзы, урад, наймальнікі. І ўсе яны ў аднолькавай меры адказныя за яго выкананне. Прафсаюзы гатовы несці сваю долю адказнасці, але яны не жадаюць быць "крайнімі" ў адносінах з людзьмі, якім з кожным днём жыць становіцца ўсё больш цяжка.

**БЕЛІНФАРМ.**

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

### "Еўраньюс"

#### СВЯТА Ў ФРАНЦЫІ

*Францыя рыхтуецца да 50-годдзя высадкі дэсанта саюзнікаў у Нармандыі. Тысячы ганаровых гасцей будуць запрошаны на свята.*

19 каралёў, 50 000 ветэранаў стануць відавочцамі святкаванняў. На працягу 15 гадзін павінна адбыцца 17 цырымоній у розных абласцях Францыі. Каля 3 тысяч журналістаў маюць намер сачыць за святам, якое пройдзе 5-6 чэрвеня.

#### ПАЕЗДКА КЛІНТАНА

*Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан разам з жонкай наведаў Італію.*

Ён сустрэўся з Рымскім Папам Іаанам Паўлам II і прадстаўнікамі італьянскага ўрада. Рым — першы этап паездкі Клінтана ў Еўропу. Пасля амерыканскі прэзідэнт прыме ўдзел у святкаванні 50-годдзя высадкі нармандскага дэсанта саюзнікаў у Францыі.

### "Суперчэннэл"

#### ВІНО... КАРЫСНАЕ ДЛЯ ЗДАРОЎЯ

*Паводле меркавання каліфарнійскіх урачоў, віно карыснае, бо ў ім утрымліваецца саліцылавая кіслата — асноўны кампанент аспірыну.*

Заўважана, што людзі, якія ўжываюць віно, менш пакутуюць ад сардэчных хвароб. Урачы лічаць, што гэта адбываецца з-за таго, што віно расшырае крываносныя сасуды.

### "Уорлднэт"

#### ЗНОЙДЗЕНА МАПЛА ПРАВАДЫРА МАЙЯ

*На поўдні Мексікі знойдзена старажытная магіла правадыра майя.*

Вучоныя лічаць, што ён быў пахаваны прыблізна ў 600—800 гадах да н.э. Знаходка дапамагла лепш зразумець народ майя, які валодаў тэрыторыяй сучаснай Мексікі і Цэнтральнай Амерыкі, пакуль тысячу гадоў назад гэтая цывілізацыя не заняпала.

#### ШЭКСПІР – НЕ ШЭКСПІР?

*Паводле найноўшых камп'ютэрных даследаванняў, раннія п'есы Уільяма Шэкспіра могуць быць напісаны не ім, а яго сучаснікам Крыстоферам Марлоу.*

Гэта ўдалося ўстанавіць з дапамогай камп'ютэра, які параўнаў дзве часткі шэкспіраўскага "Генрыха VI" з п'есамі, якія прыпісваюцца Марлоу.

### "TV-5"

#### КАТАСТРОФА Ў НЕБЕ ШАТЛАНДЫІ

*29 чалавек загінулі ў час катастрофы верталёта ў Шатландыі.*

Прычына пакуль не вядома, але эксперты лічаць, што яна магла здарыцца з-за моцнага туману. Сярод ахвяр ёсць служачыя брытанскай арміі і ірландскай паліцыі.

*(Працяг на 3-й стар.).*

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

*Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі Віктар КАПАЧЭЛЬ, Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Павел СІМАНАЎ.*



ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

## ЗАБОЙСТВА, ЯКОЕ ЗМЯНІЛА АМЕРЫКУ

*У Галівудзе пастаўлена новая п'еса пра магчымага забойцу амерыканскага прэзідэнта Джона Кенэдзі — Лі Харві Освальда.*

Яе аўтар — амерыканскі акцёр і рэжысёр Джон Мальковіч — лічыць, што забойства Кенэдзі "зламала хрыбет гэтага стагоддзя ў Амерыцы".

## ВАЛЮТА "З ДУШКОМ"

*Харватыя ўводзіць уласную валюту. Неадназначную рэакцыю ў грамадскасці выклікалі спрэчкі наконт яе назвы: ранейшую — "Дзінар" — змянілі на "Куна".*

Апошняя была грашовай адзінкай пранацысцкай дзяржавы ўсташоў, утворанай у час II сусветнай вайны.

## "НЯБЕСНАЯ ВАЙНА" СКОНЧЫЛАСЯ?

*Кампрамісам скончылася так званая "нябесная вайна" паміж Францыяй і Англіяй.*

З 13 чэрвеня гэтага года парыжскі аэрапорт Арлі будзе адкрыты для брытанскіх самалётаў. На працягу тыдня "Брытыш Эйруэйз" і "Эр Франс" будуць выконваць па 4 рэйсы з Хітроу ў Арлі.

## У КІТОЎ БУДЗЕ СВОЙ ЗАПАВЕДНІК

*На міжнароднай сустрэчы эколагаў у Мехіка прынята рашэнне аб стварэнні кітовага запаведніка ў Антарктыцы.*

Гэта рашэнне забараняе там кітовы промысел, каб захаваць 80 працэнтаў пагалоўя кітоў, якія кормяцца ў гэтых водах. Прапанова была прынята большасцю галасоў, толькі Японія прагаласавала супраць.

## ГІТАРА ПАДВЯЛА?

*"Дзевятае неба" паведамляла ўжо пра маючае адбыцца 26 чэрвеня ў Лондане шоу "Ноч 100 гітар" з удзелам лепшых гітарыстаў свету. На жаль, у ім не прыме ўдзел сусветнавядомы гітарыст Эрык Клэптан.*

Фірма "Гібсан Гітарз" не ўключыла яго ў спіс удзельнікаў, паколькі Клэптан іграе на гітары іншай фірмы.

## БУТЭРБРОД ДАЎЖЫНЁЙ 4,5 КІЛАМЕТРА

*Каля 8000 маладых добраахвотнікаў з бутэрбродамі з паштэту з сардзін у руках выстраіліся ў шарэнгу працягласцю 4,5 кіламетра ўздоўж аўтастрады ў Ліме. Такім чынам яны дабіваліся занясення Перу ў "Кнігу рэкордаў Гінеса".*

Пасля заканчэння акцыі бутэрброды, на выраб якіх пайшло 10000 буханак хлеба і 6000 кілаграмаў паштэту з сардзін, што былі раскладзены на 5000 сталах уздоўж аўтастрады, былі раздадзены дзецям беднякоў.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"



КРЫМІНАЛЬНАЕ БЮРО

# Час зацьмення

□ Сяргей БАРЫСАЎ

***Заўважана, што злачынцы, якія ўчынілі самыя жудасныя, бязлітасныя забойствы, часцей за ўсё людзі непрыкметныя і ціхія. Нярэдка водгукі пра іх зусім не адпавядаюць тым звярыным учынкам, на якія яны рашыліся. Нават знешні выгляд суперзлачынцаў бывае вельмі самавітым.***

Напрыклад, Уладзімір Г., паводле агульнага сцвярджэння ўсіх яго знаёмых, наўрад ці быў здольны нават муху пакрыўдзіць. Жыў непрыкметна, з-за язвы страўніка нават выпіваў рэдка. У той нешчаслівы для многіх дзень, дарэчы, крыху выпіў гарэлкі са сваёй знаёмай. А калі да яе прыйшоў сябар і не асабліва ветліва папрасіў Уладзіміра пакінуць кватэру, той, не спяшаючыся, пайшоў дамоў. Узяў сякеру і вярнуўся. Калі дзверы адчыніў сапернік, сякера была ўжо ў паветры, і моцны ўдар прыйшоўся таму прама ў твар. Пераступіўшы мужчыну, які ляжаў у крыві, Уладзімір увайшоў у кватэру і без тлумачэнняў ударыў сякерай жанчыну па патыліцы. Удар быў моцны. Жанчына спаўзла з ложка, ухапіўшыся за коўдру. Дачка знайшла труп маці на падлозе. Мужчына застаўся жывы і нават дапоўз да дарогі, толькі амаль страціў памяць.

На Уладзіміра выйшлі далёка не адразу, папярэдне пераб-раўшы ўсю навакольную шпану. На следстве ён не адпіраўся, усё ахвотна прызнаў. У камеры нават многа пабачыўшыя бандыты аднесліся да яго насцярожана. Потым, калі "прашчупалі", здзівіліся яго бесканфліктнасці, баязлівасці. Ён даў зняць з сябе новую целагрэйку ўзамен на стар'ё, цярпліва зносіў знявагі. Час зацьмення прайшоў. Чаму так усё адбылося — растлумачыць не мог. Саперніка бачыў у першы раз, вялікай любві да ахвяры не адчуваў.

У аналагах крымінальных здарэнняў вядомы выпадак, калі даглядчык жывёлы Міхееў засек свайго суседа толькі таму, што ў час застолля яго ўвагу прывабіла этыкетка "Стралецкай", на якой быў адлюстраваны мужчына з сякерай. Глядзеў-глядзеў Міхееў на яе, потым выйшаў у сенцы, сам узяў сякеру і апусціў яе на галаву суседа. Пасля вячэры загадаў сужыцельніцы выклікаць міліцыю.

Часам такія жудасныя гісторыі спрабуюць растлумачыць адсутнасцю ў злачынцаў інтэлекту. Сапраўды, ні Уладзімір Г., ні даглядчык Міхееў эрудытамі не былі, жылі без асаблівай прывязанасці да сям'і і не мелі сапраўднай мэты. Але той жа Чыкаціла быў філолагам. А, скажам, жыхар Арменіі Араік Л. меў сыноў і любімую жонку, выгадную прафесію — майстар па пашыву адзення, прэстыжную пасаду — старшыня кааператыва і звыш таго — далікатныя манеры, уменне весці цікавую для дам размову. Зачараваў інтэлігентных родных сваёй будучай ахвяры Эмы К., якую таксама прывабіў сваім інтэлектам за адзін вечар у рэстаране. Ён забіў даму сэрца за тое, што яна не захавала яго грошы (35 тысяч рублёў па цэнах 1991 года), і расчляніў труп на балконе. Тое ж зрабіў з яе сяброўкай, калі тая пацікавілася, што за мяса ляжыць за канапай.

Раней ператварэнне такога вось знешне прыстойнага чалавека ў крыважэрнага монстра, калі ніякіх пераканаўчых бачных прычын для абгрунтавання гэтага не знаходзілася, Зігмунд Фрэйд падобныя злачынствы растлумачваў спадчынай мінулага. Ён пісаў, што агрэсіўнасць з'яўляецца рэшткамі канібальскіх жаданняў. У ёй прымае ўдзел апарат авалодвання. Такім чынам, усялякі боль сам па сабе аб'ядноўвае магчымасць адчування асалоды. Менавіта гэтае першабытнае жаданне, прайшоўшы праз сотні пакаленняў, не знікла. І праяўляецца ў крытычны момант у некаторых людзей, нягледзячы на іх знешнюю прыстойнасць.

Канібаламі ў старажытнасці былі ўсе народы без выключэння. Амерыканскі антраполаг Джэйсі так апісвае механіку людаедскіх рытуалаў: "Удар сякеры па галаве забяспечваў глыбокую рану з моцным сцёкам крыві. Удар у грудзі ці спіну сапсаваў бы выдатныя кускі мяса. Ахвяру не дазвалялася нават душыць, бо трупная кроў у сасудах зрабіла б мяса жорсткім і нясмачным." Гэтыя падрабязнасці ўспрымаюцца намі як нешта дзікунскае. Але веды продкаў-людаедаў, відаць, чакаюць свайго часу, каб потым у час зацьмення праявіцца на поўную моц.

Безумоўна, не ў кожнага здольны праявіцца гэты вірус з канібалістычнага мінулага. На шчасце, такіх адзінкі.

Дарэчы, практычна ва ўсіх краінах, акрамя былых сацыялістычных, крымінальнае права ставіць сваёй мэтай перш за ўсё ізаляванне злачынцы, яго пакаранне, а не перавыхаванне. У турмах працуюць часам псіхолагі, але не выхавальнікі, як у нас.

Немагчыма ўявіць сабе, як можна было перавыхаваць расстраляных Скуратовіча ці Чыкаціла; моцна сумняваюся, ці магчыма гэта выканаць у адносінах, напрыклад, да пазбегнуўшага смяротнага пакарання Уладзіміра Г. Выхоўвай маньяка ці садыста або не — ён не будзе забіваць да таго часу, пакуль ген, які нясе рытуальную людаедскую радасць ад працэсу забойства, не возьме верх над ім. І ніякаму выхавальніку ген гэты не знішчыць. Самае разумнае, каб такія людзі наогул не вярталіся ў грамадства. А як гэта будзе дасягнута — справа грамадскіх прынцыпаў, традыцый і густаў.

ТЫДЗЕНЬ ПА ГАРАСКОПУ

## 6–12 чэрвеня

### БЛІЗНЯТЫ

На пачатку тыдня кантралюйце становішча ў бізнесе. Пашырэнне сферы дзейнасці. Поспех у каханні.

Пастарайцеся не рызыкаваць нічым у чацвер. Звярніцеся па дапамогу да сваіх сяброў. Магчымасць захворвання.

У выхадныя пазбягайце сварак з роднымі. Будзьце ўважлівымі ў дарозе. Атрымаеце патрэбныя вам навіны.

### РАК

Не прымайце ніякіх паспешлівых рашэнняў у панядзелак. Клапаціцеся аб сваім здароўі. Справы, за якія вы возьмецеся, завершацца паспяхова.

Будзьце ўпэўненымі ў сабе ў сераду. Не канфліктуйце з начальствам. Спрыяльны час для кахання. Адмаўляйцеся ад усялякіх прапаноў у бізнесе.

У нядзелю вам лепш выехаць за горад для заспакаення нервовай сістэмы.

### ЛЕЎ

У аўторак не плануйце ніякіх рашучых дзеянняў у фінансавых аперацыях. Не спяшайцеся закахацца. Магчымы непрыемнасці ад выпадковых знаёмстваў.

Уздым сексуальнай актыўнасці пачнецца ў чацвер. Пазбягайце сварак у сям'і. Звярніце ўвагу на сваё здароўе.

У суботу вам пашанцуе ў матэрыяльнай сферы. Займіцеся вырашэннем хатніх спраў.

### ДЗЕВА

З'явяцца перспектывы ў бізнесе ў панядзелак. Уважліва сачыце за навінамі. Магчыма прыемная нечаканасць у асабістым жыцці.

Займіцеся вырашэннем матэрыяльных праблем у чацвер. Асцерагайцеся ўсялякіх прапаноў.

Стрымлівайце свае эмоцыі ў нядзелю. Наведайце тэатр ці музей. Поспех у каханні.

### ШАЛІ

У першыя дні тыдня, нягледзячы ні на што, можаце дамагчыся жаданага выніку. Звярніце ўвагу на сваіх родных. Не давярайце сябрам вашых інтымных адносін. Многім пашанцуе з грашыма.

У сераду ў вас з'явяцца новыя інтарэсы. Пазбягайце плётак. Удача ў інтымным жыцці.

Стабілізуецца становішча на працы ў пятніцу. Рызыкуйце ў бізнесе.

У выхадныя магчыма падарожжа. Пастарайцеся не канфліктаваць з блізкімі. Не злоўжывайце алкаголем.

### СКАРПІЁН

Устрымайцеся ад нервовага напружання ў панядзелак. Не лепшы час для заключэння фінансавых здзелак. Звярніце ўвагу на сваё здароўе.

Магчымы невялікі прыбытак у сярэдзіне тыдня. З'явяцца шанцы на поспех у каханні. Сур'ёзна абдумвайце свае паводзіны на працы. Беражыце сэрца ад залішніх хваляванняў.

Займіцеся хатнімі справамі і вырашэннем асабістых праблем у нядзелю.

### СТРАЛЕЦ

Не спяшайцеся з высновамі ў аўторак. Перагледзьце вашы сямейныя адносіны.

У сераду палепшыцца становішча ў асабістым жыцці. Не злоўжывайце алкаголем. Пазбягайце залішняй актыўнасці.

Выхадныя правядзіце на свежым паветры. Пастарайцеся зразумець, што вам перашкаджае ў сям'і.

### КАЗЯРОГ

У панядзелак магчымы мімалётныя захапленні. Займіцеся вырашэннем матэрыяльных праблем. Не рызыкуйце.

Звярніцеся за парадамі ў бізнесе да сваіх знаёмых у чацвер. Удача ў асабістым жыцці.

У суботу сяброўскія кантакты дапамогуць зняць напружанасць. Магчымы матэрыяльны прыбытак. Кантралюйце сітуацыю ў фінансавай сферы.

### ВАДАЛЕЙ

На пачатку тыдня стабілізуецца становішча ў бізнесе. Атрымаеце добрыя звесткі здалёк. Паляпшэнне становішча ў асабістым жыцці. Не злоўжывайце ежай.

У чацвер многае будзе залежаць ад вашага асяроддзя. Перамены ў каханні. Пазбягайце сварак у сям'і.

Будзьце ўважлівымі да свайго каханага ў суботу. Асцерагайцеся захворванняў.

У нядзелю магчыма цікавае захапленне. Не страчвайце галавы. Захоўвайце асцярожнасць у дарозе.

### РЫБЫ

У аўторак не лепшы час для актыўных дзеянняў. Не спрачайцеся з супрацоўнікамі і роднымі. Беражыце свой страўнік.

Магчыма, вам пашанцуе ў фінансавай сферы ў сераду. Адкладзіце каханне на іншы час.

У пятніцу стабілізуецца становішча на працы і ў бізнесе. Рызыкуйце.

Цудоўная рамантычная сустрэча адбудзецца ў нядзелю. Верагоднасць траўм.

### АВЕН

Атрымаеце вялікі эмацыянальны зарад у панядзелак. Удача ў інтымным жыцці. Вырашацца хатнія праблемы. З'явяцца перспектывы паляпшэння фінансавага становішча.

У чацвер уважліва сачыце за навінамі. Магчымы матэрыяльны прыбытак. Будзьце актыўнымі ў каханні.

Займіцеся спортам у суботу. Устрымайцеся ад падарожжаў. Пазбягайце эмацыянальнай напружанасці.

### ЦЯЛЕЦ

На пачатку тыдня фартуна вам усміхнецца. Рызыкуйце! У каханні магчымы непаразуменні.

У сераду займіцеся гаспадарчымі справамі. Сачыце за ўсімі навінамі. Верагоднасць рэалізацыі вашых планаў.

Не плануйце рашучых дзеянняў у фінансавай сферы ў суботу. Спрыяльны час у асабістым жыцці.

# Групавы партрэт на фоне часу

□ Яўгенія ВІЦЬБА

***Красавіцкія сустрэчы беларускай моладзі з кіраўнікамі дзяржавы далі яўную карціну стану маладзёжнай палітыкі ці хутчэй яе адсутнасці ў нашай рэспубліцы.***

Дзве асноўныя арганізацыі — Саюз моладзі і Асацыяцыя студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў — аб'ядноўваюць маладых людзей Віцебшчыны. Каардынуючую работу вядуць Камітэт па справах моладзі і камітэты раённых і гарадскіх Саветаў. Гэта, хоць і не вырашае ўсяго спектра маладзёжных праблем, тым не менш, дае магчымасць выяўляць і абагульняць іх, а значыць, рабіць своеасаблівы дыягназ, пасля чаго, зразумела, лягчэй ставіць пытанне і шукаць шляхі яго вырашэння.

— Аналітычная характарыстыка маладзёжнага стану на Віцебшчыне, — адзначыў выконваючы абавязкі старшыні абласнога камітэта па справах моладзі Сяргей Пятровіч Блажэй, — мае як шматлікія "плюсы", так і "мінусы", часам ёсць многа палярнага ў параўнанні з гадамі ЛКСМБ, што, безумоўна, патрабуе вывучэння і даследавання спецыялістамі адпаведнага інстытута. Ён жа, як і Міністэрства па справах моладзі і сям'і, пакуль што ў перспектыве.

Не выключана, што новыя афіцыйныя структуры дадаткова папоўняцца бюракратамі і спародзяць яшчэ большыя праблемы ў маладзёжным асяроддзі, такія, напрыклад, як хабарніцтва, злоўжыванне службовым становішчам ці раскраданне дзяржаўна-грамадскай маёмасці шляхам прысваення. Аналітычная характарыстыка маладзёжных праблем на Віцебшчыне якраз дае магчымасць для такога меркавання, паколькі ў бытнасць цэнтралізаваных камсамольскіх структур гэтая разнавіднасць злачынства працвітала даволі паспяхова. Так, напрыклад, у 1985 годзе за падобныя правапарушэнні было прыцягнута да адказнасці 628 чалавек. У мінулым годзе лічба скарацілася да 292. З усіх іншых злачынстваў, зразумела, не без уліку наўмысных забойстваў і згвалтаванняў, найбольш працвітала дробнае хуліганства. У 1985 годзе было зафіксавана 976 учынкаў маладзёжнай дурноты і нявыхаванасці, а ў мінулым — 499.

Як бачым, першы і другі віды злачынстваў значна скараціліся сярод моладзі Віцебскай вобласці. Можна было б і парадавацца: ну, нарэшце, маладзёжныя чыноўнікі сталі больш сумленнымі, а хлопцы-лайдакі ўзяліся за розум, перасталі выпіваць па завуголлях, біць шыбы ды адзін аднаму нюхаўкі ці ваяваць паміж дварамі і мікрараёнамі. На жаль, ні сумленнем ні паразуменнем тут і не пахне. Моладзь сапраўды "паразумнела". І паразумнела жахліва. Пра гэта і настаў час не толькі зазваніць, але і забухаць ва ўсе званы.

У апошнія гады па Віцебскай вобласці сярод моладзі 16-17 гадоў не зафіксавана ніводнага цяжкага злачынства, звязанага з ужываннем моцнадзеючых, у тым ліку і наркатычных, сродкаў. Сярод старэйшых — да 29 гадоў — такія выпадкі здараліся, але не шмат. Затое цвярозыя наўмысныя забойствы выраслі з 69 у 1985 годзе да 78 за апошні год. Крадзеж дзяржаўна-грамадскай маёмасці шляхам грабяжу вырас з 22 да 44 выпадкаў, а разбойнага нападу — з 3 да 8. Актыўна, з 185 да 281, павялічыўся грабеж уласнай маёмасці, а разбойныя нападкі па яе захопу ўзраслі з 81 да 105.

Незаконнае нашэнне зброі, яе захоўванне выяўлена ў 60 чалавек, калі ў 1985 годзе такіх "зброяносцаў" было толькі 26. Практычна з нулявой адзнакі да 7 вырасла колькасць выпадкаў крадзяжу агнястрэльнай зброі і боепрыпасаў. Прыгатаванне ж і збыт наркатычных сродкаў з аднаго-двух выпадкаў у 1985 годзе павялічылася да 29 і 19 у апошнія гады.

Можна было б прыводзіць шмат прыкладаў, каб на фоне крымінальнай статыстыкі больш поўна ахарактарызаваць маладзёжную злачыннасць у вобласці. Але, думаецца, дастаткова прыведзенага. Маладыя людзі цвяроза, свядома, запланавана і нават калектыўна выходзяць на дарогу гвалтоўнасці. Гэта жудасна. І яшчэ больш ад таго, што з 400 тысяч маладых людзей ад 16 да 35 гадоў (трэцяя частка ўсяго насельніцтва вобласці) 150 тысяч маюць вышэйшую адукацыю, 10 тысяч — няпоўную вышэйшую, а сярэднюю і сярэднюю спецыяльную — амаль 200 тысяч. Адным словам, на змену дэбільнаватага ранейшага злачынцы прыйшоў групавы партрэт на фоне часу.

Апошнія гады ад прадстаўнікоў старэйшага пакалення амаль усюды гучаць абуральныя воклічы: "Вось моладзь пайшла!

Міжволі ўзнікае контрвокліч: дык гэта ж вашы дзеці і ўнукі, ваша тварэнне. Няўжо моладзь разбэшчваецца сама па сабе? А можа маеце да гэтага дачыненне і вы, старэйшыя? Ды розныя там салідныя камерцыйныя дзядзькі?

А хто думаў аб тым, што будзе з моладдзю, калі практычна ліквідавалі дзяржзаказ на працаўладкаванне выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў?

Вайна не скончыцца, гаварыў адзін палкаводзец мінулага, пакуль не пахаваны яе апошні салдат. Але гэта — пра салдат былых войнаў. Сёння ж, можна сказаць, ідзе вайна з нашай моладдзю. Яе, беспрацоўную, бескватэрную, падштурхоўваюць на шлях злачынства. Дык можа варта павярнуцца да маладзёжных праблем. У тым ліку і палітыкам разам з прэтэндэнтамі ў прэзідэнты, якія пакуль што не вельмі вызначыліся ў адносінах да маладзёжнай палітыкі.

Ты старышся, грубееш, бязрадасна і пуста праходзяць твае жаночыя гады. Ты спяшалася хутчэй ўзяць усё ад свайго кароткага існавання на нашай не такой ужо грэшнай зямлі, а апынулася... за кратамі. Не, гэта не жудасны сон, гэта страшная рэчаіснасць. "Нябёсы" стварылі цябе, каб ты несла жыццё, а не адбірала яго, каб ты стварала дабрабыт, а не таптала яго, дарыла цеплыню, а не холад і смурод.

Пасля вынясення прыгавору толькі тут па-сапраўднаму зразумееш і ўпершыню адчуеш увесь жах выбранага шляху – шляху злачынства.

У Гомельскай папраўча-працоўнай калоніі знаходзіцца 1160 жанчын-асуджаных і 47 непаўналетніх дзяўчат. Нясуць яны пакаранне за забойства, за замах на забойства, грабяжы, крадзяжы асабістай і дзяржаўнай маёмасці, хуліганства, махлярства.

На адной тэрыторыі сабраны тры віды рэжымаў: строгі, агульны і калонія для непаўналетніх. У такіх умовах, калі не быў злачынцам па натуры, то хутчэй за ўсё станеш ім.

**Святлана КУЛІКОВА.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

АДАМ І ЕВА

# Камандзіроўка

□ Барыс САФРОНЕНКА

*Калі ў чарговы раз ехаў "адбываць" свае тры тыдні ў Магілёў (за год кожны начальнік аддзела наведваецца туды па два разы), мой калега і сябар Шурык сказаў, што, калі захачу, не толькі з жыллём на гэты раз праблем не ўзнікне, але і са снеданнем, вячэрай і больш прыемнымі рэчамі. Камфорт гарантуецца. І ўсяго за сто пяцьдзесят тысяч у тыдзень.*

*Жыць па-людску, а не ў пракураным гасцінічным нумары на траіх — адна думка пра гэта цешыла сэрца. Адразу з вакзала накіраваўся па ўказанаму адрасу. Так і пазнаёміўся з Веранікай.*

На выгляд ёй было гадоў трыццаць пяць — сорак. Што называецца, жанчына ў самым росквіце. Фігуру яна захавала выдатную, талія амаль як у маладой Гурчанка, рост сярэдні, скура даволі свежая, а маршчынкі толькі пад вачамі. Можа, толькі ў вачах весялосці, бесклапотнасці, жывых агеньчыкаў, якія заўсёды бываюць у маладых, у яе не было. А пра ўзрост, дарэчы, па вачах і можна меркаваць. Валасы лёгка пафарбаваць, скуру — захаваць, а вочы не падмануць. Яны — як лямпачкі, падключаныя да часу, напружанне якога з гадамі падае.

Жыла яна чыста, сціпла, хоць відаць было, што раней ведала лепшыя часы. Паліто з норкавым каўняром і боты італьянскія, але "Гарызонт" — чорна-белы і старэнькі, секцыя вільнюская пачатку 70-х, тахта і канапа таксама не першай свежасці. А вось ежу гатавала боскую.

Першае, чаго не чакаў, — яна ведала многіх нашых. Я зразумеў — амаль усё начальства карысталася яе паслугамі, а ніжэй вядучых спецыялістаў, сюды ніхто не з'яўляўся. Мне было вельмі цікава распытаць у яе пра сёе-тое, але вырашыў адкласці на потым. Па-першае, марку трэба трымаць, па-другое, у мяне правіла: ў душу не лезці. Калі яго прытрымлівацца — у выйгрышы

кахання на экране перайшлі. Яна ціхую музыку ўключыла, свечкі запаліла...

Гэта была паслухмяная і пяшчотная жанчына. Я зразумеў, што пяшчотнасць у яе ад прыроды.

Вядома, і скрозь пяшчоту адчувалася пэўная аддаленасць. Але, з другога боку, мне было больш прыемна быць з ёю, чым з жонкай, у якой халоднасць да мяне была вынікам шматгадовай прывычкі, а вось не даць заўважыць сваёй аддаленасці ў яе не хапала пяшчоты.

Чым далей я жыў ў яе кватэры, тым больш яна мне падабалася. Хоць паводзіла сябе са мной роўна, у манеры, якую выбрала ў першы ж вечар, і не давала падставы пераступіць тую мяжу, пры якой я мог патрабаваць ад яе нечага большага, чым тое, што было агаворана платай. Шчырасць у плату не ўваходзіла.

Я купляў ёй кветкі і даставаў білеты ў тэатр. Потым звадзіў яе ў рэстаран... Часам прыходзіла думка, што можа яна проста іграе пэўную ролю. Такая дабранькая, разумная, памалу расстаўляе пасткі, каб пабольш узяць грошай з кліента. Але на гэта папярэджанне розуму сэрца не рэагавала ніяк.

Аднойчы, калі яе не было дома, сваім ключом адчыніла дзверы маладая, вульгарна нафарбаваная, ужо крыху патрапаная, падобная на Вераніку асоба. Мяне ўспрыняла, як мэблю, ледзь кіўнуўшы. Аднак, калі я прапанаваў ёй дарагія цыгарэты, не адмовілася, заявіла, што яна — дачка Веранікі. Спытала, ці хутка прыйдзе маці, перакінулася са мной яшчэ некалькімі малазначнымі фразамі, а потым, акінуўшы мяне нядоўгім павярхоўным позіркам, спытала: "Можа, у вас штосьці выпіць знойдзецца?" За распіццём віна нас і застала Вераніка.

Упершыню ўбачыў яе такой: боль у вачах змяшаўся з азлобленасцю. Я паспяшаўся выйсці ў пакой. Яны гаварылі вельмі гучна, часам — істэрычна, па абрыўках узаемных папрокаў я зразумеў, што дачка, прыйшоўшы сюды, парушыла забарону. Ёй штосьці трэба, чаго мая "гаспадыня" выконваць не хоча. Аднак, калі дачка пайшла, Вераніка, просячы прабачэння з прычыны непрадбачаных акалічнасцей, папрасіла расплаціцца раней. Я не здзівіўся.

Затое цяпер меў права на шчырую размову. Гэты вечар у нас прайшоў не так як звычайна: відаць, не толькі мне, але і ёй шчырай размовы хацелася больш, чым чагосьці.

...Вераніка выйшла замуж рана і гадоў да трыццаці жыла, можна сказаць, прыпяваючы. Муж быў таваразнаўцам, потым загадчыкам магазіна, яна гадавала дачку, пакрыху вучылася ў інстытуце, з акадэмічнымі водпускамі, зразумела. Ніколі не працавала, пакуль муж не загінуў у аварыі — разбіўся на ўласных "Жыгулях". Пасля гэтага вымушана была ўладкавацца планавіком у інстытут. Зарплата — не Бог ведае якая, але ў якасці даважка да ўжо нажытага, давала магчымасць існаваць і няблага апранацца самой і апранаць Юлю не горш за іншых. Магчыма, адносная бязбеднасць, а можа, бацькоўская кроў — муж Веранікі здраджваў, але сям'ю ніколі мяняць не збіраўся, — падштурхнула дачку Юлю на раннія пошукі самастойнасці. Толькі матэрыяльную незалежнасць без асаблівага шанцавання не кожны і да сарака гадоў здабудзе. Каб з табой як з асобай лічыліся — таксама гады патрэбны. Прасцей кажучы, Юля пайшла па руках. Спачатку былі начлегі нібыта ў сяброўак, потым — без тлумачэнняў. Бывала, дадому ледзь прыпаўзала.

У школу ў дзесятым класе перастала хадзіць. Дома бывала рэдка. Потым усё нібыта наладзілася, нейкі пробліск з'явіўся. Пачала Юля жыць з адным мужчынам. Праўда, той падоўгу нідзе не працаваў, выпіваў, быў старэйшы за Юлю на цэлых восем гадоў, але — са сваёй кватэрай. Яны распісаліся.

Маці ў гэты час свой крыжовы шлях праходзіла. Гады два таму яе ў інстытуце скарацілі. У бюро па працаўладкаванню сказалі прыкладна так: "Даражэнькая, у горадзе сотні незанятых планавікоў, а вакансій — два дзесяткі ўсяго". Атрымалася так — работы ніякай, а дачцэ з беспрацоўным зяцем прыходзілася дапамагаць. А як не дапамагчы, калі ім нават на хлеб не хапала? Распрадала пакрыху рэчы, памяняла новае на старое з даплатай.

А вось перавучвацца, прыбіральшчыцай працаваць — не ляжала душа. Не, калі б, можа, вельмі прыціснула, пайшла б, але сяброўка пазнаёміла з салідным чалавекам — намеснікам дырэктара нашага завода. Той — каньячок праз дзень, духі... Карацей, яе "заваяваў". Але прыгледзеўшыся да жыцця Веранікі, сказаў: "Ведаеш, жанчына ты — што трэба, але сям'і з-за цябе я не кіну. І калі шчыра, дапамагаць пастаянна, каб зарплата на дзве сям'і ішла, не змагу, — непрыемнасці нажыву. Хто-небудзь з заводскіх тут увесь час бывае, праўда, людзі ў асноўным сямейныя. Я іх сюды буду накіроўваць замест гасцініцы. І матэрыяльная табе дапамога, і, глядзіш, шчасце сваё сустрэнеш". Так і пайшло.

— А па-сур'ёзнаму так ніхто нічога і не прапанаваў? — спытаў я.

Яна адказала горкім паўсмехам:

— Дзівак! А ты, напрыклад, згадзіўся б узяць такую жонку?

Я ўявіў, што адбылося б пасля гэтага, і шчыра адказаў: "Не".

А ўсё роўна несправядліва.

■

♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥ ♥

***Спытайце ў Наташы***

# Калі нельга раджаць...

***"Прабачце, што прыходзіцца вас непакоіць, але пытанне, на якое нідзе не магу атрымаць адказ, датычыць адносін паміж мужчынам і жанчынай.***

***Хачу даведацца пра што-небудзь новае аб сродках кантрацэпцыі. "Спіралі", гарманальныя прэпараты — гэта я ўжо ведаю, але асабіста мне яны не падыходзяць. Справа ў тым, што пры маім захворванні (параліч ног) мне ўвогуле лепей не мець дзяцей, — вялікая рызыка нарадзіць непаўнацэннага малога. Але прырода бярэ сваё... Выходзіць замуж я ў бліжэйшы час не збіраюся. Чула, што ёсць прэпарат, які пазбаўляе жанчыну магчымасці зацяжарыць. Усяго некалькі ўколаў у вену — і рабі, што хочаш. На жаль, я не ведаю ні назвы гэтага прэпарата, ні дзе яго выпускаюць. У паліклініцы па месцы жыхарства ніхто не даў мне неабходнай кансультацыі — толькі традыцыйныя рэкамендацыі наконт падліку "небяспечных" дзён і да т.п. І тое — з намёкам: маўляў, у вашым становішчы можна было б і ўвогуле ўстрымацца.***

***Так, многія дзяўчаты і жанчыны-інваліды свядома пазбаўляюць сябе радасцей нармальнага жыцця. Але ж хіба гэта справядліва?***

**Ларыса."**

Каб атрымаць адказ на пытанне нашай чытачкі, мы звярнуліся па дапамогу да прафесіяналаў — спецыялістаў у галіне акушэрства і гінекалогіі. І вось аб чым даведаліся.

Нядаўна ў камерцыйных аптэках сталіцы з'явіўся новы супрацьзачаткавы прэпарат Дэпо-Правера ў ампулах. Адной унутрымышачнай (а не ўнутрывеннай!) ін'екцыі дастаткова, каб пазбавіць вас магчымасці зацяжарыць на працягу 1—3 месяцаў (у залежнасці ад канцэнтрацыі). Эфектыўнасць метаду — сто працэнтаў. Пасля заканчэння тэрміну дзеяння ін'екцыю можна паўтарыць.

Але ў любым выпадку спачатку неабходна параіцца са сваім гінеколагам — прэпарат можа мець пабочныя эфекты.

Дарэчы, і льготы, якія датычаць набыцця інвалідамі лекаў у дзяржаўных аптэках, на камерцыйныя фармацэўтычныя ўстановы не распаўсюджваюцца. Набываць прэпарат прыйдзецца без усялякай скідкі.

